ЗАСНАВАНА 1 студзеня 1982 года

# ТРЫБУНА ПРАЦЫ

Грамадска-палітычная ГАЗЕТА
БАБРУЙСКАГА раёна

№46(2453) | Серада, 14 чэрвеня 2000 года | Цана 60 руб.

*Механізатарская гвардыя*

## ІМ ЛЮБАЯ СПРАВА ПА ПЛЯЧЫ

Механізатару на вёсцы ў любую пару года знойдзецца работа. Такая ўжо спецыфіка сельгасвытворчасці, што на змену адным клопатам прыходзяць другія турботы і справы.

За свае 44 механізатарскія гады Уладзімір Аляксандравіч Нікіфаравец (верхні здымак), што з калгаса імя XXII з'езда КПСС, гэта добра засвоіў. Таму любое заданне выконвае старанна, з асабістай адзнакай якасці. У час нядаўняй сяўбы ён шчыраваў на полі, а выйшлі дойны статак і цялушкі Грабаўскай фермы на пашы – стаў падвозіць ім ваду, дапамагаць жывёлаводам па іншых справах. Але вось прыспела касавіца траў, і, вядома ж, Уладзімір Аляксандравіч, калі надараецца свабодная гадзіна, не можа затрымлівацца на ферме: тады яго МТЗ-82 з прычэпам кіруе на сенажаці, а вяртаецца адтуль ужо з гатовым сенам.



Сяргей Іванавіч Шах з птушкафабрыкі (ніжні здымак) мае значна меншы механізатарскі стаж, чым яго калега-ветэран. Але ён таксама – адменны майстар любой справы. Праўда, пакуль не ўдзельнічае ў корманарыхтоўцы, бо выконвае другую, не менш адказную работу, — адвозіць жыжу ад птушнікаў. Затое на пасяўной і ворывам, і культывацыяй глебы займаўся. Давяралі, бо ён – адзін з лепшых аратых у гаспадарцы.



Дарэчы, абодва здымкі якраз і былі зроблены на нядаўнім раённым спаборніцтве аратых, у якім прынялі ўдзел гэтыя механізатары.

**М. ВЕРАСОЎСКІ.**
**Фота Б. ВАРФАЛАМЕЕВА.**

### УБОРКА ТРАЎ ПЕРШАГА ЎКОСУ Ў ГАСПАДАРКАХ РАЁНА

па стану на 13 чэрвеня 2000 года

| Назва гаспадарак: | План (га) | Скошана ў % да плана | Убрана (га) |
|---|---|---|---|
| *Калгасы:* | | | |
| "Гігант" | 1459 | 61 | 815 |
| "Прагрэс" | 511 | 54 | 253 |
| імя Неўскага | 1237 | 39 | 340 |
| імя Дзяржынскага | 907 | 39 | 254 |
| "Шлях Леніна" | 747 | 35 | 174 |
| "Перамога" | 771 | 34 | 205 |
| імя Някрасава | 592 | 31 | 166 |
| імя Мічурына | 890 | 25 | 150 |
| імя Фрунзе | 434 | 25 | 81 |
| імя Пушкіна | 1059 | 23 | 190 |
| імя XXII з'езда КПСС | 1101 | 19 | 19 |
| "Сцяг камуны" | 1090 | 16 | 137 |
| "Гарохаўскі" | 807 | 6 | 45 |
| *Саўгасы:* | | | |
| "Кісялевічы" | 102 | 52 | 38 |
| Птушкафабрыка | 780 | 31 | 190 |
| "Бабруйскі" | 1221 | 14 | 10 |
| імя Леніна | 1121 | 13 | 85 |
| АГФ "Бярэзіна" | 601 | 12 | 70 |
| "Осава" | 944 | 10 | 10 |
| "Дойнічава" | 1162 | 28 | 28 |
| "Пятровічы" | 438 | — | — |
| УСЯГО ПА РАЁНУ | 17944 | 25 | 3296 |

*Экспрэс-інфармацыя*

### НА ПАЛЯХ РАЁНА

● Разам з корманарыхтоўкай у гаспадарках актыўна вядзецца догляд пасеваў сельгаскультур. Паўторна падкормлены ўжо азотнымі тукамі больш за 400 га азімай пшаніцы, а таксама 1200 га яравых збожжавых.

● За мінулы час праведзена міжрадковая апрацоўка пасеваў кукурузы на плошчы 1825 га, а рапсу і збожжавых ад шкоднікаў і хвароб – на плошчы адпаведна 580 і 1099 га.

● У гаспадарках працягваецца хімпраполка яравых культур. Ядахімікатамі апрацавана па стану на ўчарашні дзень 7023 га збожжавых, 128 га караняплодаў, амаль дзве трэці пасеваў кукурузы і 269 га цукровых буракоў.

*Навіны рэспублікі*

### КОЛЬКАСЦЬ НАСЕЛЬНІЦТВА БЕЛАРУСІ ПАМЯНШАЕЦЦА

Па стану на 1 мая на тэрыторыі Беларусі пражывала 10 млн. 6 тыс. жыхароў.

З пачатку года насельніцтва краіны зменшылася прыкладна на 13,5 тыс. чалавек.

Асноўнай прычынай змяншэння колькасці насельніцтва па-ранейшаму застаюцца натуральныя страты. Так, калі за першыя 4 месяцы года ў краіне нарадзіліся 29341 чалавек, то памерлі 48244. Як сведчыць статыстыка, за гэты ж перыяд колькасць асоб, якія прыехалі ў Беларусь на сталае месца жыхарства, перавысіла колькасць тых, хто з'ехаў, прыкладна на 5,3 тысячы.

Тым не менш, нават міграцыйныя працэсы няздольны істотна паўплываць на агульную сітуацыю. Пры цяперашніх тэмпах страт ужо сёлетнім летам у Беларусі будзе пражываць менш за 10 мільёнаў чалавек.

### ПАДТРЫМАЦЬ БЕЛАРУСКІХ КНІГАВЫДАЎЦОЎ

Прэс-канферэнцыю з нагоды выхаду Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь "Аб некаторых мерах па забеспячэнню насельніцтва рэспублікі кніжнай прадукцыяй, звязанай з адукацыяй, навукай і культурай, і аб дзяржаўнай падтрымцы нацыянальнага кнігавыдання ў 2000-2001 гадах" правёў у Грамадскім прэс-цэнтры Дома прэсы намеснік старшыні Дзяржкамітэта РБ па друку С. Нічыпаровіч.

Ад уплаты падаткту на дабаўленую вартасць і рэнтнага збору будзе вызвалена практычна ўся літаратура, за выключэннем літаратуры рэкламнага і эратычнага характару.

### ТАРЫФЫ РАСТУЦЬ

З 29 мая ў рэспубліцы "падраслі" камунальныя тарыфы. На 30 працэнтаў павышана плата за паслугі па гарачым водазабеспячэнні і ацяпленні. Таксама на 30 працэнтаў узрасла квартплата. Зараз яна складае 4,86 рубля за квадратны метр агульнай плошчы (раней – 3,74 руб.).

Акрамя таго, на 5,9 працэнта будуць праіндэксаваны тарыфы за ўжо прайшоўшы май на халодную ваду, каналізацыю і ліфт.

### ПАСЛЕДСТВЫ НАВАЛЬНІЧНАГА РАЗГУЛУ

У ноч з 6 на 7 чэрвеня ў Мінскай вобласці назіраліся моцныя навальнічыя даждж з маланкамі. Адразу тры пажары ў Смалявіцкім раёне і адзін у Пухавіцкім адбыліся ад удараў маланкі.

А ў в. Алесіна маланка вырашыла кінуць "чырвонага пеўня" на калгасную маёмасць – у выніку быў знішчаны дах будынка і электрычны рухавік помпавай станцыі. Людзей і жывёл маланка абмінула.

## ПАДПІСКА – 2000

*Ці зможаш ты, жыхар раёна, пражыць без сваёй газеты?*

*Дзе, як не на старонках "Трыбуны працы" ты знойдзеш свежыя навіны аб працоўных дасягненнях землякоў, даведаешся аб тым, што новага адбылося на Бабруйшчыне за апошні час, пазнаёмішся з цікавымі, змястоўнымі матэрыяламі супрацоўнікаў рэдакцыі і няштатных аўтараў, інтэрв'ю з цікавымі людзьмі і шмат іншых публікацый на самыя розныя тэмы? Усё гэта будзе друкавацца на старонках раёнкі і ў наступным паўгоддзі.*

*Не забудзь падпісацца!*
*Кошт на "Трыбуну працы":*
*на месяц — 372 рублі;*
*на квартал — 1116 рублёў;*
*на паўгоддзе — 2232 рублі.*
*СЯБРОЎСТВА ПРАЦЯГВАЕЦЦА!*

Ф. РД-1

Абонемент на газету "Трыбуна працы" — 64092 (індэкс выдання)

(назва выдання)

На 199 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды ________ (паштовы індэкс) ________ (адрас)

Каму ________ (прозвішча, ініцыялы)

ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА

| ПВ | месца | літар | на газету "Трыбуна працы" | (індэкс выдання) |
|---|---|---|---|---|

(назва выдання)

| Кошт | падпіскі | руб. | Колькасць камплектаў |
|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | руб. | |

На 199 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды ________ (паштовы індэкс)

(адрас)

Каму ________ (прозвішча, ініцыялы)

*Сацыяльная служба: учора, сёння, заўтра*

# ПРАБЛЕМЫ, АД ЯКІХ НІХТО НЕ ЗАСТРАХАВАНЫ

***Ужо напрыканцы васьмідзесятых савецкае грамадства выпрабоўвала нямала эканамічных, сацыяльна-бытавых і палітычных праблем. Хваліцца асабліва не было чым. Жыццёвы ўзровень людзей пагаршаўся. Асабліва цярпелі пенсіянеры і састарэлыя, інваліды і нямоглыя. Усім ім патрэбна была рэальная і дзейсная дапамога.***

***Менавіта зыходзячы з гэтых абставін і была створана служба сацыяльнай дапамогі на даму. У нашым раёне яна ўзнікла трынаццаць гадоў назад. Узначаліла яе тады Р.П. Кныш. З таго часу ўцякло нямала вады, але ў рабоце аддзялення мала што змянілася. Хіба толькі што раней існуючыя прблемы набылі больш востры характар, і вырашыць іх патрэбна на больш высокім узроўні. Менавіта такую думку і выказала падчас нашай размовы Р.П. КНЫШ, якая выконвае абавязкі кіраўніка Цэнтра сацыяльнага абслугоўвання.***

*— Раіса Паўлаўна, дазвольце, калі ласка, пацікавіцца, а чаму аддзяленне сацыяльнай дапамогі пераўтворана цяпер у Цэнтр? Ці то карысці ад такога новаўвядзення будзе больш, ці ў вас нарэшце з'явіцца магчымасць дзейсна працаваць з тымі людзьмі, якія з нецярплівасцю чакаюць сацыяльных работнікаў у сябе дома? І якія ў вас шансы стаць зноў-такі першым дырэктарам такога Цэнтра?*

— Вы занадта шмат пытанняў задалі, — усміхнулася шчыра Раіса Паўлаўна. – Але паспрабую адказаць. Вядома ж, не хацелася, каб з пэўнымі пераўтварэннямі мы зноў не мелі належнай магчымасці аказваць дзейсную дапамогу нашым нямоглым суайчыннікам. Усё ўпіраецца, прабачце за банальнасць, у сродкі. У нас іх пакуль што няма, і разлічваць на дапамогу з боку не даводзіцца. Багатыя людзі, так званыя спонсары, грашыма асабліва не раскідваюцца, а тым больш не спяшаюцца адрываць пэўныя сродкі на дабрачынныя мэты. Магчыма, з развіццём пэўных сфер дзейнасці Цэнтра нарэшце з'явіцца магчымасць не толькі разлічваць на дзяржаву, але і на сардэчнасць тых, хто мае некаторы капітал. У гэтым годзе на наш рахунак ніхто не пералічыў ні капейкі. Ці варта забываць, што ўсіх нас чакае старасць, і невядома яшчэ хто і як будзе, у рэшце рэшт, дажываць свой век. Без дапамогі з боку нельга сёння разлічваць на нармальнае функцыянаванне сацыяльнай службы.

Што ж тычыцца майго дырэктарства, то не ў гэтым сутнасць праблемы. Я ў любым выпадку застануся на сацыяльнай службе. І хутчэй за ўсё ўзначалю адно з аддзяленняў Цэнтра. Я прывыкла за гэты час да сваіх людзей, да тых, разам з кім даводзіцца дзяліць радасці і нягоды. Практычна ўсіх тых, каго мы абслугоўваем, ведаю не толькі ў твар, а і па імёнах.

*— Раіса Паўлаўна, так атрымалася, што аддзяленне сацыяльнай службы шмат зрабіла за гэтыя трынаццаць гадоў, але аб ім мала хто ведаў. Магчыма, не хапала інфармаванасці, настойлівасці ў "выбіванні" сродкаў...*

— Ведаеце, мы не спалі ў шапку. Сякія-такія грошы ўсё ж знаходзіліся. Некаторыя людзі праяўлялі дабрачыннасць, пералічваючы на наш рахунак пэўныя грашовыя сродкі. Мы ўдзячны ім за гэта. Кожная капейка знайшла свайго адрасата, унесла свой уклад у фарміраванне бюджэту таго ці іншага нашага грамадзяніна. Але асноўны цяжар, як і цяпер лічу, клаўся і кладзецца на сельвыканкамы, калгасы і саўгасы, на тыя вытворчыя прадпрыемствы, дзе ў свой час працавалі шматлікія нашы састарэлыя, інваліды вайны і працы. Прыемна ўсведамляць той факт, што ніводзін з кіраўнікоў цяперашніх і былых у недалёкім мінулым не адмаўляў нам у нашых просьбах дапамагчы састарэлым людзям.

*— А колькі чалавек вам даводзіцца абслугоўваць?*

— На сённяшні дзень на ўліку Цэнтра сацыяльнай дапамогі на даму налічваецца 347 чалавек, якія пражываюць літаральна ва ўсіх кутках раёна. Ёсць сярод іх і такія, хто ўжо не можа самастойна хадзіць і патрабуе да сябе неаслабнай увагі.

*— Раіса Паўлаўна, як разумею, і ў вас штат немаленькі? Трымаць на абслугоўванні каля чатырох соцень састарэлых і інвалідаў, значыць мець і адпаведныя магчымасці!?*

— У цэлым такія магчымасці ёсць. У нашым Цэнтры на сённяшні дзень штатных работнікаў больш за дваццаць чалавек. Асноўная нагрузка кладзецца на плечы сацыяльных работнікаў і тых, хто працуе па дагаворах.

*— Як гэта зразумець?*

— Сацыяльныя работнікі, калі так можна выказацца, нясуць адказнасць за абслугоўванне не менш 8-10 чалавек. І паверце, як правіла на такую работу ідуць людзі з адкрытай душой і добрым сэрцам. Састарэлыя, як тыя дзеці, чакаюць сацыяльных работнікаў з нецярплівасцю, бо тыя і ў хаце прыбяруць, і дроў прынясуць, і пісьмо напішуць, і словам абагрэюць... І пры тым заўважце: зарплата ў іх невялікая – складае крыху больш за дзесяць тысяч рублёў у месяц. У іншых умовах знаходзяцца дагаворныя работнікі, г.зн. тыя людзі, якія маюць асноўнае месца працы, але яшчэ па магчымасці аказваюць дапамогу і састарэлым людзям, нашым кліентам. Хаця плата за іх паслугі таксама сімвалічная...

*— Якія перспектывы бачацца з нагоды арганізацыі Цэнтра сацыяльнай дапамогі? Ці ж хадзіць увесь час па кругу з працягнутай шапкай?*

— Наша служба і на самай справе знаходзіцца ў досыць складаных рамках быцця. З нас патрабуюць увагі і дапамогі састарэлым і інвалідам, а грошай няма. Выканкам райсавета аказвае дапамогу толькі па канкрэтных заявах нашых кліентаў, і то невялікую. Усё і на самай справе зводзіцца да дабрачыннасці. Разлічваем на гуманітарную дапамогу, на трывалае і абавязковае слова старшыні сельсавета ці кіраўніка таго ці іншага калгаса, саўгаса, прадпрыемства... Сёлета практычна ўсе жадаючыя пасадзілі свае агароды, па меры магчымасці стараемся забяспечыць нашых людзей палівам. Хаця зрабіць гэта вельмі і вельмі складана. Дэфіцыт з брыкетам уносіць пэўную нервовасць і няўпэўненасць. Востра стаіць пытанне і з рамонтнымі работамі.

*— Раіса Паўлаўна, нягледзячы на пэўныя цяжкасці і нязручнасці, жадаю вам асабіста і вашым падначаленым аптымізму, дабразычлівасці і веры. Вы робіце добрую справу. Давайце ж не будзем забываць пра тых, хто ў свой час верай і праўдай служыў Айчыне, хто і сёння паважае нашы законы і верыць у лепшае жыццё.*

— Дзякуй вам на добрым слове.

**Падрыхтаваў Якаў АБРАМОВІЧ.**

*Паэтычны рэпартаж*

# У ЦЯПЛІЧНЫМ КАМБІНАЦЕ...

*Тут агарод раскінуўся пад шклом,*
*Дзе агуркі растуць і памідоры.*
*Тут і зімою – летняе цяпло*
*Ды свежасць, бы на поўдні каля мора.*
*Святло сюды цячэ з усіх бакоў*
*Праз дах шкляны і праз шкляныя сцены,*
*Гірлянды памідораў, агуркоў*
*Збіраюць з блокаў тут пaперамечна.*
*Тут штучны мікраклімат круглы год*
*З патрэбнай для раслін тэмпературай.*
*Тут працавіты, што й казаць, народ.*
*Не места ў ім ляноце і халтуры.*
*Цяплічніцы з канца ў канец снуюць.*
*Штодня для ўсіх знаходзіцца работа.*
*І кожная так секцыю сваю*
*Старанна надта дагледае – што ты!.. –*
*Каб вырасціць высокі ураджай,*
*Які б сабе і іншым цешыў вочы.*
*Таматы ўжо былі на Першамай,*
*А агуркі раней – на дзень жаночы.*
*І стала фірма фабрыкай здаўна*
*Прадукцыі карыснай вітамiннай.*
*Сягоння ёсць у продажы яна*
*У гарадскіх свабодна магазінах.*
*Сцвярджаюць, што нітратаў тут няма –*
*Кантроль надзейны за такой праявай.*
*Паверым (не гавораць жа дарма),*
*Што так і ёсць яно на самай справе.*
*Бо хімлабараторыя заслон*
*Паставіць і нітратам, і нітрытам.*
*А калектыў цяплічны?.. Шчыра ён*
*Прыемнага жадае апетыту.*
*Дык хто ж аб нас клапоціцца ўжо тут,*
*На агародзе пад празрыстым дахам?*
*Хто творыць гэты незвычайны цуд*
*Пад шатамі з азонным свежым пахам?..*
*Кіруе тут больш як пятнаццаць год*
*М. Каваленка – майстар сваёй справы.*
*Ён дбае, каб пад дахам агарод*
*Даў болей агародніны дзяржаве.*
*І аграном-тэхнолаг тут, як след*
*(Дацэнка Ганна) пільна наглядае,*
*Каб у раслін стаў пладаносным цвет,*
*Парадаваць каб добрым ураджаем.*
*І Красікава Ніна, аграном,*
*Старання прыкладае ўжо нямала,*
*Каб агародніна тут дзень за днём*
*У кожным блоку дружна паспявала.*
*І Ліда Афанасенка здаўна*
*Нязменна тут працуе брыгадзірам,*
*Дарадчыкам з'яўляецца яна*
*І ўмелым для цяплічніц камандзірам.*
*Дый кожная з цяплічных звенняевых*
*Пахвальнага тут заслужыла слова.*
*Вось на таматах хто працуе з іх:*
*То – Севярын, Пракопчык і Бажкова.*
*На агурках – Піражнік з лепшых, вось...*
*Шаўчэнка і Майсеева. Дарэчы,*
*У секцыях у іх парадак скрозь –*
*Што яўна аб старанні іхнім сведчыць.*
*Затое дабіваюцца спаўна*
*Пастаўленай перад сабою мэты –*
*Усе яны збіраюць, як адна,*
*Высокі ураджай з квадратных метраў.*
*І ўсё, чаго дабіўся калектыў,*
*Што гаспадарка — у радах пярэдніх.*
*Для гэтага, канешне, шмат зрабіў*
*Тут кіраўнік умелы С.І. Феднеў.*
*... Дык вось, калі хто будзе смакаваць*
*Салату з агуркоў, або таматаў –*
*Дык не забудзьце, ў думках хоць, сказаць*
*Вялікі дзякуй людзям з камбіната...*

**Уладзімір РУДЗІНСКІ.**



*У ліку лепшых спецыялістаў раённай паліклінікі называюць В.У. Ільчанка. Урач-эндаскапіст, Валерый Уладзіміравіч дасканала валодае сваёй прафесіяй, з чуласцю, павагай і разуменнем адносіцца да праблем пацыентаў.*

**Фота Б. ВАРФАЛАМЕЕВА.**

*З рэдакцыйнай пошты*

# И СНОВА ХЛЕБНАЯ ПРОБЛЕМА

СОЗДАЕТСЯ такое впечатление, что по некоторым признакам наш поселок возвращается в тяжелые послевоенные времена. Я имею в виду периодически возникающие перебои с хлебом в нашем Туголицком магазине. Другие продукты имеются – вино, водка, соки в достатке. Но ведь главный продукт, что ни говори, это хлеб.

После мартовского "хлебного" кризиса, о котором писала газета, мы надеялись, что подобного не повторится, что все наладилось раз и навсегда. Но вот с первого июня история повторилась. Продавцы в магазине вежливо отвечают: "Не перевели деньги на поставку хлеба". Точно такой же ответ, какой мы слышали в марте. Возникает вопрос, почему в начале месяца не позаботиться о поставках продукта, о переводе этих самых денег, в общем, об организации нормального торгового процесса. Народ в Туголице шумит: кому нужен такой магазин, сколько можно трепать нервы простому человеку? Ведь за буханкой хлеба приходится ехать в город, а это трата времени и денег.

Бытует мнение, ставшее уже расхожим, что магазин этот хорошо было бы передать райпо Бобруйска. Может быть тогда работа наладится?

**В. КРИЧКО, п. Туголица.**

# ПАМЯТЬ ВОЗВРАЩАЕТ В ТЕ ГОДА...

ПРОЧИТАЛА в вашей газете статью, написанную старшеклассницей одной из школ района, в которой она рассказывает о своем понимании и видении Великой Отечественной войны. У меня тоже есть свои воспоминания о том времени, воспоминания, полные ужаса и страха, в первую очередь о "Бобруйском котле", в котором по воле фашистских оккупантов оказалась и я.

Когда началась война, мне было двенадцать лет. Успела окончить 4 класса четвертой Бобруйской школы. Жили мы тогда – я, мать, отец и трехлетняя сестричка – на улице Мясникова. Наши соседи, Совотеевы ушли в партизаны. Мой отец тоже. Мы с мамой и сестричкой подались пешком в деревню Малая Контора, где жили дедушка с бабушкой. Но и здесь спокойно не было. Фашисты забирали молодежь на работу в Германию. И вот весной 1944 года меня в числе других парней и девчат загнали в лагерь, который находился в деревне Змеевка Жлобинского района. Мне уже было 15 лет, только-только переболела тифом, не думала, что выживу, ведь ни лекарств, ни врачей не было. А рядом похоронили столько умерших детей, стариков, просто ослабших людей, что образовалось целое кладбище. Из лагеря нас гоняли копать окопы под Жлобином. А малолеток сразу же посадили в крытые машины и увезли неизвестно куда. Ходили слухи, что у них брали кровь для раненых немецких солдат.

И вот 26 июня 1944 года нас, обессиленных, голодных построили в колонну и погнали по шоссе в направлении Бобруйска. Здесь мы узнали, что наши войска уже наступают. Самолеты бомбили немцев на шоссе и делали дымовые круги, что означало окружение. Вокруг было множество разбитой техники – танков, орудий, повозок. Фашисты удирали за Березину, оставляя за собой не похороненные трупы. Убитые люди и лошади, стоны, дым – все это запомнилось мне на всю оставшуюся жизнь. Настоящий ад. Потом я уже узнала, что это был "Бобруйский котел". Ночь на 27 июня мы, 8 спасшихся человек, сидели в болоте по пояс в грязи, а кругом рвались снаряды. Но к утру все стихло, мы выбрались на дорогу и пошли в ближайшую деревню, которая называлась Бабино. Все жители сидели в погребах. Мы заглянули в один, но пожилая женщина нам ответила, чтобы мы уходили, что здесь спит полицейский и если он проснется, то может расстрелять. Мы снова направились к шоссе. А советские танки уже шли из Жлобина на Бобруйск. Увидев красные звезды на танковых башнях, мы поняли, что пришло освобождение. Заплакали от счастья, не верилось, что живы после такого кошмара.

Дальше жизнь пошла своим чередом. Сейчас, спустя 56 лет, я рассказываю о том времени своим внукам и хочу только одного, чтобы это никогда не повторилось.

**В.А. КРУК, п. Туголица.**

**ДА УВАГІ ПАДПІСЧЫКАЎ!**

Адпаведна дагаворам, заключаным з рэдакцыямі (выдавецтвамі) пры афармленні падпіскі прадпрыемствы сувязі ажыццяуляюць пасрэдніцкія паслугі па распаўсюджванню і дастауцы, таму за нявыхад, нясвоечасовы выхад з друку газет і часопюауў адказнасць перад падшсчыкамі нясе рэдакцыя (выдавецтва).

Праверце правільнасць афармлення абанемента, на абанеменце павінен быць пастаулен адбітак касавай машыны. Пры афармленні падпіскі (пераадрасоўкі) без касавай машыны на абанеменце ставіцца адбітак каляндарнага штэмпеля аддзялення сувязі. У гэтым выпадку абанемент выдаецца падшсчыку з квітанцыяй аб аплаце кошту падшскі (пераадрасоуи).

Для афармлення падпіскі на газету ці часопіс, а таксама для пераадрасавання выдання бланк абанемента з даставачнай картачкай запауняецца падшсчыкам чарнілами, разборліва без скарачэнняў, у адпаведнасці з умовамі каталога.

Запауненне месячных клетак пры пераадрасаванні выданняў, а таксама клеткі «ПВ-МЕСЦА» выконваецца работнікамі прадпрыемстваў сувязі.

# "ЧЫСТАЕ" МАЛАКО

Малако яшчэ на самым першым этапе вытворчасці – даенні атрымлівае немалую долю бактэрый, якія зусім не бясшкодныя. Вёдры, матэрыял для працэджвання, розныя шкляныя слоічкі і ёмістасці з пластмасы – усё гэта ступені забруджанасці. Розныя мікробы знаходзяцца ў паветры, у малочным посудзе, у першых струменьчыках малака.

З аднаго мікроба можа "вылупіцца" 16 мільёнаў новых! Прадукцыя хутка псуецца і можа быць небяспечнай. Нейкім чынам стрымлівае рост гэтай з'явы ахаладжванне ці пастэрызацыя пры даволі высокай тэмпературы.

Але многае могуць зрабіць і самі гаспадары. За гадзіну да даення спыніць кармленне. Памяшканне абавязкова праветрыць, стойлы прыбраць. Вымя і саскі перад даеннем абмыць цёплай вадой і выцерці спецыяльным ручнікам. Калі вымя зарасло валасамі, абстрыгчы. Хвост рагулі прывязаць да яе нагі. Першыя струмені сцадзіць асобна. Даіць без перапынку. Пасля зноў выцерці вымя, а саскі змазаць вазелінам.

У малацэ могуць быць кроў і так званы "пясочак". Кроплі крыві часцей за ўсё бываюць пасля цялення, калі сасуды вельмі расшыраюцца. Але кроў у летні час можа ўказваць і на атручэнне рагулі ці, калі яна пасвіцца ў лесе, нават пры змене пашы. Малако салёнае, пры накіпанні адкіпае. Сасуды жывёліны расшыраны.

"Пясок" у малацэ часцей за ўсё бывае ад няпоўнага выдойвання. Яшчэ яго прычына – парушэнне абмену рэчываў, запаленне малочных шляхоў. Калі пакратаць вымя, то заўважым нейкія ўшчыльненні-камякі. Яны быццам рухаюцца пад пальцамі. Само малако доіцца з праблемамі. У белым малацэ відаць тыя "пясчынкі".

Калі ў малацэ ўбачылі кроў і гэтыя пясчынкі, неабходна звярнуцца да ветурача.

# ДЛЯ ТВОЕГО ПОДВОРЬЯ, СЕЛЬЧАНИН

## ПОМИДОРЫ: СЛАГАЕМЫЕ УСПЕХА

Многие огородники для экономии площади высаживают помидоры загущенно (40-50 см), а потом подвязывают их к кольям. Но надо помнить, что до 95 процентов пищи растения берут из воздуха при помощи лучистой энергии солнца усваивают его углекислоту. Следовательно, чем больше листовой аппарат и большая площадь под солнцем – больше пищи из воздуха и почвы. А подвязанное растение – это веник, где одна ветка затеняет вторую, т.е. то самое, когда вы садите помидоры в тени строения или под яблоню. Необходимо узнать высоту и объем куста всех сортов помидоров, которые будут выращивать, и при посадке расстояния между ними давать такие, чтобы в расцвете своего роста они заняли всю площадь земли, не затеняя друг друга. Не окучивать, не пасынковать и не подвязывать. Все это травмирует растение и его корни и отрицательно сказывается на урожае.

Высаживают рассаду в лунки с навозом (две-три пригоршни в лунку навоза или перегноя и щепотку смеси минеральных удобрений), поливают, вода впитается, присыпают сухой землей. Весь участок пробороновывают граблями. И на время забывают. Потом боронования между рядами и в рядах следуют через каждые 3-5 дней.

В момент бурного налива плодов им нужно много фосфора и калия. Поэтому 20-25 июня, перед смыканием ботвы в междурядьях дают подкормку по 40-60 г на 1 м² суперфосфата и хлористого калия и хорошо пробороновывают.

Очень важно во время цветения обработать помидоры раствором борной кислоты (10 г ее растворить в 1 л горячей воды и разбавить в ведре холодной). Помидорам всегда не хватает у нас бора. Этот нехитрый прием увеличивает урожай на 30-40 процентов.

И последнее, защита растений от фитофтороза. Для этого надо опрыскивать томаты еще в теплице, в рассаде, т.е. за 1-2 дня до высадки рассады на место. Вторая обработка – спустя 2-3 недели после высадки, а потом – раз в каждые 2 недели. Если сырая погода, то и чаще, 5-6 обработок за сезон. А если сухо, как в прошлом году, достаточно 2-3 обработки за сезон. Но для гарантии одну обработку провести в конце августа перед большими туманами.

Стабильно в последние годы я собираю урожай с 5 июля и до заморозков. Испробуйте в будущем мой метод – не пожалеете.

**В. ПРОКОПЧИК, г. Бобруйск.**

## БОЛЕЗНИ САДОВЫХ ДЕРЕВЬЕВ

**Монилиальный ожог** (монилиоз) вишни. Первые признаки заболевания проявляются сразу же после цветения, когда отдельные веточки внезапно усыхают. Такое дерево имеет вид обожженного огнем. Особенно поражается этим грибным заболеванием войлочная вишня.

Меры борьбы. 1. Вырезка и сжигание поврежденных ветвей и побегов. 2. Опрыскивание растения 1%-м раствором бордоской смеси (100 г медного купороса с добавлением 100 г извести на 10 л воды) или хлорокисью меди (40 г на 10 л воды) два раза – весной перед самым распусканием цветков и сразу же после обработки поврежденных ветвей и побегов. 3. Опрыскивание настоем коровяка всего растения (2 кг коровяка, настоенного 3 дня в 10 л воды) два-три раза за несколько дней до цветения и после цветения – начала образования плодов.

**Зеленая яблонная тля**. Распространена повсеместно и повреждает главным образом яблоню, грушу, рябину. Когда почки трогаются в рост, отрождающиеся личинки заселяют их "зеленый конус", а с раскрытием почек заползают внутрь и высасывают соки из молодых листочков и зачатков генеративных органов. В результате листья скручиваются, рост побегов сильно угнетается. Через 1-2 недели личинки превращаются во взрослых особей, которые повреждают растения.

Меры борьбы. 1. Очистка и побелка штамбов и ветвей со старой коры с последующей побелкой известковым раствором (2-3 кг глины, 1 кг извести на 10 л воды). 2. Обрезка прикорневой поросли и волчков у старых яблонь, на которых зимуют яйца тли. 3. Обработка одним из препаратов по скоплениям тли: карбофос, 10% к.э. (75-100 г на 10 л), децис, 2,5% к.э. или каратэ, 5% к.э. (5 г или чайная ложка на 10 л воды). 4. Обработка настоем чеснока, лука репчатого, махорки с добавлением мыла в начале распускания почек.

## ЧЫСТАЦЕЛ – ДЛЯ БАРАЦЬБЫ СА ШКОДНІКАМІ

Так званы вялікі чыстацел – гэта расліна з роду шматгадовых макавых культур. У нас расце паўсюдна. Настоі прымяняюць як жаўцягонны сродак.

Вялікай папулярнасцю карыстаецца ў агароднікаў. Настоены вялікі чыстацел выкарыстоўваюць у барацьбе з мядзяніцай, тлёй, вусенямі і іншымі шкоднікамі.

Расліна, якая зацвіла, зразаецца. Кветкі, лісце, сцябло (3-4 кг) настойваюць у 10 літрах вады суткі-паўтары. Працадзіць. Апырскваць распыляльнікам. Трэба памятаць, што атрыманыя "лекі" даволі ядавітыя. Будзьце асцярожнымі.

Чыстацел можна сушыць. Сцёрты на парашок выкарыстоўваюць супраць блышак і матылькоў на капусце.

## КАК ОПРЕДЕЛИТЬ КИСЛОТНОСТЬ ПОЧВЫ?

Приблизительно кислотность почвы вы можете определить следующим образом. Если на участке обильно растет хвощ, щавель, мокрица, лютик, подорожник, вероника, мята, значит, почва кислая. Лебеда, мать-и-мачеха, полевой вьюнок, ромашка непахучая предпочитают слабокислую, почти нейтральную почву.

***Смех, да и только***

## ТАКОЕ ЛЕКАРСТВО НЕ ПОДВЕДЕТ

*Врач, выслушав жалобы пациента:*

*— Физические нагрузки вам нужны незамедлительно...*

*— Но я ведь бегаю трусцой, с весны до осени на даче лопату из рук не выпускаю, да и на работу пешком хожу...*

*— Все это неплохо. А вы попробуйте в час пик на автобусе по городу проехать...*

# Расписание движения "дачных" поездов по ст.Березина с 28.05.2000 г.

| № | Маршрут следования | Прибытие | Стоянка | Отправл. | Приб. на конечн. ст. | Дни курсирования |
|---|---|---|---|---|---|---|
| На Осиповичи | | | | | | |
| 6513 | Жлобин – Осиповичи | 5.58 | 2 | 6.00 | 7.17 | ежедневно |
| 6501 | Телуша – Осиповичи | 7.44 | 2 | 7.46 | 9.05 | ежедневно |
| 6503 | Кр. Берег – Осиповичи | 10.18 | 2 | 10.20 | 11.37 | ежедневно |
| 6753 | Березина – Осиповичи | – | – | 13.08 | 14.25 | ежедневно |
| 6517 | Жлобин – Осиповичи | 14.12 | 2 | 14.14 | 15.34 | ежедневно |
| 6505 | Кр. Берег – Осиповичи | 16.04 | 3 | 16.07 | 17.25 | ежедневно |
| 6507 | Телуша – Осиповичи | 18.25 | 2 | 18.27 | 19.45 | ежедневно |
| 6757 | Кр. Берег – Осиповичи | 22.31 | 2 | 22.33 | 23.48 | ежедневно |
| 6009 | Березина – Бобруйск | – | – | 22.43 | 22.49 | ежедневно |
| На Жлобин | | | | | | |
| 6520 | Рабкор – Жлобин | 5.37 | 2 | 5.39 | 7.15 | ежедневно |
| 6514 | Осиповичи – Жлобин | 9.40 | 2 | 9.42 | 11.20 | ежедневно |
| 6516 | Рабкор – Жлобин | 16.14 | 8 | 16.22 | 18.10 | ежедневно |
| 6518 | Осиповичи – Жлобин | 17.59 | 8 | 18.07 | 19.44 | ежедневно |
| 6504 | Осиповичи – Кр. Берег | 7.52 | 3 | 7.55 | 8.56 | ежедневно |
| 6506 | Осиповичи – Кр. Берег | 13.17 | 2 | 13.19 | 14.20 | ежедневно |
| 6502 | Бобруйск – Телуша | 6.24 | 1 | 6.25 | 6.57 | ежедневно |
| 6508 | Осиповичи – Телуша | 16.03 | 5 | 16.08 | 16.42 | ежедневно |
| 6758 | Ратмировичи – Кр. Берег | 20.09 | 2 | 20.11 | 21.12 | ежедневно |
| 6510 | Осиповичи – Березина | – | – | 22.22 | 22.22 | ежедневно |
| На Рабкор | | | | | | |
| 6751 | Березина – Рабкор | – | – | 7.57 | 10.09 | ежедневно |
| 6515 | Жлобин – Рабкор | 9.50 | 6 | 9.56 | 12.01 | ежедневно |
| 6519 | Жлобин – Рабкор | 19.57 | 4 | 20.01 | 22.05 | ежедневно |
| 6755 | Березина – Ратмировичи | – | – | 16.58 | 18.25 | ежедневно |
| На Березину | | | | | | |
| 6752 | Осиповичи – Березина | 7.35 | – | – | 7.35 | ежедневно |
| 6754 | Рабкор – Березина | 12.49 | – | – | 12.49 | ежедневно |
| 6756 | Осиповичи – Березина | 16.31 | – | – | 16.31 | ежедневно |

***Врач предостерегает***

# ОТ ЖИВОТНЫХ – ЧЕЛОВЕКУ

На территории Бобруйского района после перерыва в 30 лет начали регистрироваться случаи лептоспироза среди населения. За истекший 2000 год зарегистрировано 3 подтвержденных случая этого заболевания.

Болеют жители разных населенных пунктов (д. Соломенка, Грабово, Слобода). Источниками лептоспирозной инфекции для человека являются дикие, домашние и промысловые животные. В организм человека и животных возбудитель проникает через поврежденную кожу и слизистые оболочки полости рта, желудочно-кишечного тракта, глаз, носа, наружных половых органов. Возбудители лептоспироза — лептоспиры – сохраняются в воде открытых водоемов, не высыхающих лужах, прудах, болотах, медленно текущих речках, влажной почве.

Заболевание у людей протекает с интоксикацией, лихорадкой. Прогноз в целом благоприятный, однако при тяжелом течении лептоспироза с желтухой, поражением печени и почек, геморрагическими явлениями, он значительно ухудшается, в ряде случаев возможны летальные исходы.

В профилактике этой инфекции основную роль играют дератизационные мероприятия: обеспечение непроницаемости помещений для грызунов, очистка территории населенных пунктов от мусора, хранение продуктов и воды в недоступных для грызунов местах, применение приманок.

Соблюдение правил личной гигиены значительно снижает риск заражения лептоспирозом.

**В. СЛАБКО, эпидемиолог районного центра гигиены и эпидемиологии.**

***КВН***

# ЧТО БЫ ЭТО ЗНАЧИЛО?



Ну вот и финишировал второй этап конкурса "Что бы это значило?". Он оказался более продолжительным, чем первый и более привлекательным для вас, уважаемые наши авторы-читатели: свыше дюжины остроумных характеристик предложенному сюжету пришло в редакцию. И прежде чем дать старт третьему этапу нашего Конкурса Веселых и Находчивых, мы с радостной торжественностью объявляем имя победителя этапа №2. Им стал Василий Егорович ЖИТКОВ.

А сейчас посмотрите на эту картинку. Сразу же хочется пошутить, не правда ли? А коль так, то шутите, записывайте и посылайте в редакцию на Карла Либкнехта, 49. С готовностью выслушаем – зафиксируем вашу остроту и по телефону. И помните: главное не форма, а содержание! Приз победителю прежний – бесплатная подписка на "Трыбуну працы". Поехали!



**ПМК-84 "Могилевводстрой" выражает глубокое соболезнование родным и близким в связи с постигшим их большим горем – скоропостижной смертью сына, мужа и отца НЕРУША Михаила Федоровича.**


**Бабруйская раённая газета "Трыбуна ПРАЦЫ"**
ЗАСНАВАЛЬНІКІ: Бабруйскі раённы выканаўчы камітэт. Раённы Савет дэпутатаў. Працоўны калектыў рэдакцыі.
ІНДЭКС 64092. РЭГІСТРАЦЫЙНЫ № 661.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы ў парадку абмеркавання, не падзяляючы пункту гледжання аўтара. Аўтары артыкулаў нясуць адказнасць за надрукаваныя матэрыялы.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 213800, г. Бабруйск, вул. К. Лібкнехта, 49.

ТЭЛЕФОНЫ: Рэдактара – 7-34-75; адказнага сакратара і аддзела пісьмаў – 2-80-33; аддзела эканомікі і сельскага жыцця – 7-83-36; аддзела сацыяльных праблем – 2-47-02; бухгалтэрыі і аддзела рэкламы – 7-49-24.

Газета аддрукавана ў друкарні імя Непагодзіна. 213800, г. Бабруйск, вул. Сацыялістычная, 103, 7-32-05. Нумар падпісаны ў друк 13.06.2000г. у 16-00. ІНДЭКС 64092. ЗАКАЗ 2640. ТЫРАЖ 3000.

*Рэдактар Мікалай ДАВІДОВІЧ.*